# Ніва

ГОД I № 16 БЕЛАСТОК, 17 ЧЭРВЕНЯ 1956 г. ЦАНА 60 гр.



МАКСІМ ГОРКІ

## Дзяўчына і смерць

(урыўкі)

Праязджаў праз вёску цар з вайны,
Едзе — чорнай злосцю сэрца точыць.
Чуе — за кустамі бузіны
Дзеўчына рагоча.
Бровы рыжыя ўладар нахмурыў,
Грозна пнуўшы шпорамі каня,
Наляцеў на дзеўчыну, як бура,
У кустах, дзе дрэмле цішыня.
— Ты чаго, — крычыць ён злосна,
груба, —
— Ты чаго, — дзяўчына шчэрыш зубы?
Я прайграў у бойцы перамогу,
Уся мая дружына перабіта,
Запалонена палова світы,
Я дадому еду за падмогай,
Я — твой цар, пакрыўджаны
няўдачай, —
Як мне недарэчны смех твой бачыць?
Кофтачку папраўіўшы... супроць
Адказала дзеўчына цару:
— Адыходзь — я з любым гавару!
Бацюхна, ты лепей адыходзь.
Як кахаеш, дык не да цароў, —
Няма часу гутарыць з царамі!
Часам-жа хутчэй гарыць любоў,
Чымсці свечка ў цёплым божым храме.
Цар затросся ўвесь ад дзікай злосці,
Загадаў сваёй пакорнай свіце:
— У турму дзяўчыну, ягамосці,
Або, лепш, — адразу задушыце!
Паслухмяна вызверыўшы хары,
Кінуліся к дзеўчыне, як чэрці,
Канюхі цара, паны-пачвары, —
Аддалі дзяўчыну ў рукі Смерці.

* * *

Смерці дзеўчына глядзіць у вочы
І удару грознага чакае.
Смерць, нібы шкадуючы, мармоча:
— Бачыш ты, якая маладая!
Што ты нагрубіла там цару?
Я цябе за гэта замару!
— Не сярдуй, — гаворыць ёй дзяў-
чына, —
Ну, чаго злавацца без прычыны?
У першы раз яшчэ мяне мой мілы
Цалаваў пад голлем бузіны, —
Пра цара ў той час я і забыла.
Як на грэх тут цар бяжыць з вайны.
Я і гавару яму, цару,
Бацюхна, ідзі, — са мной каханы!
Добра гэтак, быццам, гавару,
А вось бачыш, вышла як пагана!
Што-ж? Ніяк ад Смерці не схавацца.
Дакахаць-жа нельга у труне.
Смертухна! Зрабі паслугу мне —
Дай ты мне яшчэ пацалавацца!
Дзіўна слухаць Смерці словы тыя, —
Так яе ніхто прасіць не будзе!
Думае: „Як пражыву тады я,
Калі кінуць цалавацца людзі?"
Косці сонцам грэючы вясняным,
Кажа Смерць, прывабіўшы змяю:
— Ну, ідзі, цалуйся' шчэ з каханым!
Ноч — твая, а досвіткам — заб'ю!
І на камень села і чакае.
А змяя касу ёй джалам ліжа.
Дзеўчына ад шчасця аж рыдае,
Смерць бурчыць: — Ідзі хутчэй, ідзі-жа!

* * *

Смерць прачнулася пад поўдзень,
позна.
Бачыць, — 'шчэ дзяўчына не прышла!
— От распуста! — Смерць мармыча
грозна, —
Мусіць, ноч кароткая была!
Рве яна сланечнік за плятнём,
Нюхае, любуецца, як сонца
Залаціць жывым сваім агнём
Ліст асіны ў жоўтыя чырвонцы.
І, на сонца гледзячы, запяла
Ціха і гугнява, як умела:
— Як бязлітаснай рукой
Людзі бліжняга заб'юць,
Дык хаваюць і пяюць:
„Са святымі упакой!"
Вось не кемлю я таго —
Дэспат б'е людзей без жалю,
А падох ён — і яго
З той-жа песняй пахавалі!
Чэсны ці круцель памёр —
З аднальковаю тугой
Распявае сумны хор:
„Са святымі упакой!"
Дурня, быдла або хама
Я заб'ю маёй рукой,
Ды для ўсіх пяюць таксама:
„Са святымі упакой!"

* * *

Песню праспявала і злавацца
Пачала на дзеўчыну упарта.
Прамінулі суткі, а вяртацца
Усё не хоча. Смерці — не да жартаў.
Злуючыся з кожным мігам болей,
Смерць абула лапці і анучы
І, ледзь месік выплыў па-над полем,
Грознай хмарай рушыла паўзучай.
Шмат ішла. Зірнула: на паляне,
Пад ляшчынай, на траве шаўковай
Дзеўчына сядзіць ў праменным ззяні
Шчаснаю багіняю вясновай.
Як зямля парой вясновай ранняй,
Яе грудзі голыя — на сорам,
На атласнай скуры яе ланняй
Бачны ярка пацалункаў зоры.
Два саскі, як зоры на грудзях,
І глядзяць, як зоры, ціха вочы
Угару, на светлы Млечны шлях,
На сцяжынку сінякудрай ночы.
Пад блакітнымі вачамі цені,
Быццам рана — чырванеюць губы.
Ей паклаўшы галаву ў калені,
Як алень стамлёны, дрэмле любы.
Смерць глядзіць, і жар пякучы гневу
Ціха гасне ў чэрапе пустым.
— Ты чаго-ж, як быццам тая Ева,
Захавалася ад бога за кусты?
Быццам небам — светлазорным целам
Засланіўшы хлопца ад яе,
Смерці дзеўчына сказала смела:
— Пачакай-жа і не лай мяне!
Не шумі, хай адпачне мой мілы,
Востраю касою не звіні!
Я пайду з табою да магілы,
А яго ты толькі не крані!
Не прыйшла я ў тэрмін, вінавата,
Думала, што жыць мне небагата.
Дай яшчэ хлапчыну абніму:
Надта хораша са мной яму!
Ды і ён — харошы! Бачыш вось
Ён якія мне пакінуў знакі,
На грудзях, на шчоках яны скрозь
Зацвілі, як вогненыя макі!
Смерць з усмешкай ціхаю сказала:
— Мо' цябе так сонца цалавала?
Але-ж больш не можна мне чакаць, —
Тысячы я мушу забіваць!
Чэсна часу я заўжды служу.
Я — старая ўжо, а многа спраў.
Кожнаю хвілінай даражу,
Дык хадзем, дзяўчына, час настаў!
Дзеўчына — сваё:
— Прытуліць мілы,
Неба і зямлі як не было,
Поўніцца душа цудоўнай сілай,
Успыхне ў ёй цудоўнае святло.
Лёс тады не ўладны над табой,
Не патрэбна і людзей спагада!
Як дзіцё — сабою радасць рада,
І любоў любуецца сабой!
Смерць маўчыць задумліва і строга,
Бачыць — пець яна не перастане!
Лепш няма — за сонца ў свеце бога,
За агонь — ярчэй агню кахання!

* * *

Смерць маўчыць, але дзяўчыны словы
Зайздрасці агнём ёй косці плавяць,
Кінуць у холад, после — у жар
нанова,
Што-жа сэрца Смерці свету явіць?
Смерць — жанчына, хоць не маці, ёй
Цяжка з сэрцам справіцца парой;
У цьмяным сэрцы Смерці ёсць сляды
Гневу, спачування і нуды.
Тым, каго яна любіць захоча,
Хто ў душу ўджгнуты злой нудою,
Як яна любоўна шэпча ўночы
Аб вялікай радасці спакою!
Кажа Смерць: — Хай свет паверыць
цуду!
Свой дазвол даю табе — жыві!
Толькі я з табою побач буду,
Вечна буду я каля Любві!
З тых часоў Любоў і Смерць, як
сёстры,
Зніта́ваны дружбаю заўсёднай,
За любоўю Смерць з касою вострай
Следам цягнецца, як быццам зводня.
І усюды дбайная старая —
На вяселлі, ля пліты магільнай —
Заўжды радасці Любві ствярае,
Ладзіць шчасце для Жыцця
няўхільна.

Пераклад А. Зарыцкага
і М. Машары



Максім Горкі. Капры 1913 г

ШТОТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

 

# Алімпійскі год

З 23 лістапада па 8 снежаня г. г. адбудуцца ў Мельбурн — Аўстралія XVI Алімпійскія гульні.

Алімпійская ідэя нам вельмі блізкая, бо з'яўляецца яна ідэяй міру і прагрэсу. Пяць алімпійскіх колаў — гэта сімвал братэрства моладзі пяці кантынентаў. На алімпійскім сцязе відаць старалатынскі лозунг: „Хутчэй — вышэй — мацней" — гэта выклік кінуты ўсяму чалавецтву — ісці наперад, толькі наперад. Алімпійскія гульні для спартсменаў усяго свету з'яўляюцца паказчыкам іх дасягненняў.

Усе аматары спорту з нецярплівасцю чакаюць таго моманту, калі пачнуцца XVI Алімпійскія гульні — усіх цікавіць, што новага яны прынясуць.

Пакуль алімпійскі агонь запалыхае на стадыёне ў Мельбурн — прыпомнім сабе з большага, гісторыю Алімпійскіх гульняў.

Першыя Алімпійскія гульні пачаліся яшчэ ў старажытнай Грэцыі каля 776 г. перад новай эраю. Адбываліся яны што 4 гады на алімпійскім стадыёне каля падножжа гары Алімп і працягваліся 5 дзён. Розыгрышы праходзілі толькі ў пяціборстве г. зн.: бег, скачок з разгону, кіданне дыскам і копіей, і змаганні барцоў. Пераможцаў акружвалі амаль боскай пашанай, ставілі ім у гаі Зеўса статуі, пісалі ў іх гонар вершы і г. д.

Сумесна з заняпадам старажытнай Грэцыі заняпала і ідэя арганізавання гульняў. Над руінамі стадыёна ў Алімпіі мінула амаль поўтары тысячы год пакуль нарадзілася думка аднавіць прыгожую грэцкую традыцыю.

Уваскрасіў гэтую традыцыю французскі археалог Пятро дэ-Кубертын, які ў 1894 г. сарганізаваў Міжнародны Алімпійскі Камітэт. Камітэт вырашыў адрадзіць традыцыю гульняў і арганізаваць іх што 4 гады.

Першыя Алімпійскія гульні новай эры адбыліся ў 1896 г. ў Афінах, на стадыёне, які быў адбудаваны паводле старажытных узораў. Удзельнічала ў іх 8 краін. Найвялікшай падзеяй гульняў была перамога пастыра Спірыдона Льуса. Чэмпіёнам першых гульняў быў амерыканец І. Б. Конолы. Далей Алімпійскія гульні адбываліся:

Парыж — 1900 год
Ст. Люйс — 1904 год
Лондан — 1908 год
Стакгольм — 1912 год

Антверпія — 1920 год дзе ўпершыню ў гісторыі гульняў удзельнічалі палякі.

Амстэрдам — 1928 г. Вядомая польская спартсменка Галіна Канапацкая ў кіданні дыскам заняла першае месца і заваявала такім чынам, залатую медаль.

Лос Анжалес — 1932 г. палякі заваявалі 2 залатыя і 2 сярэбраныя медалі. Галоўным героям польскай каманды быў Януш Кусацінькі, пераможца ў бегу на 10 кілометраў, які заваяваў залатую медаль і Станіслава Валясевіч — самая хуткая жанчына на IX Алімпійскіх гульнях.

Берлін — 1936 год. Галоўным героям гэтай Алімпіяды быў заваёўшчык 4 залатых медаляў негр Ёссэ Овенс.

Лондан — 1948 год. На гэтай Алімпіядзе славутны чэшскі спартсмен, Эміль Затопак пачаў сваю кар'еру б'ючы рэкорд устаноўлены паляком Кусацінскім у бегу на 10 кілометраў.

Хельсінкі — 1952 г. У гэтых гульнях удзельнічала звыш 70 краін і ўпершыню прынялі ўдзел спартсмены СССР займаючы сумесна з ЗША першае месца. Савецкія спартсмены заваявалі на гэтай Алімпіядзе 106 медаляў у тым ліку: 38 залатых, 53 сярэбраных і 15 бронзавых, устанаўляючы рад сусветных, і алімпійскіх рэкордаў.

Перамога савецкай каманды з'явілася як-бы праславутым, „кубкам халоднай вады" на ўсіх тых песымістаў, якія не верылі ў высокае майстэрства савецкіх спартсменаў, не верылі ў дасягненні спорту ў СССР.

Зборная каманда польскіх спартсменаў у агульнай пунктацыі заняла 25 месца заваёўваючы адзін залаты медаль (Хыхла — бокс), 2 сярэбраныя (Антковіч — бокс і Ёкель — гімнастыка) і 1 бронзавы медаль (Коцэрка — веславанне).

Вось, у вялікім скарочанні гісторыя Алімпійскіх гульняў.

У сучасны момант у горадзе Мельбурн амаль ужо ўсе гатова да прыняцця 6 тысяч спартсменаў і некалькіх тысяч гасцей. Алімпійскі стадыён аблічан на 120 тысяч гледачоў.

Пабудавана глядзельны зал у якім будуць адбывацца спаборніцтвы па лёгкаатлетыцы, фінальныя сустрэчы па футболу і хакею на траве. Спаборніцтвы па іншых дысцыплінах спорту будуць адбывацца на басейнах, заліве і на недалёкім возеры.

Як паведамляюць прэсавыя бюлетэны, ёсць ужо дэталёва апрацавана праграма гульняў а асабліва дзень адкрыцця спаборніцтваў. Алімпійскі агонь запалены ў Алімпійскім гаі ў Грэцыі будзе перавезен самалётам у порт Дарвін у Аўстраліі. З порта Дарвін вялікая эстафета маладых спартсменаў перанясе яго трасай аб даўжыні 4.104 кілометраў да Мельбурн на галоўны алімпійскі стадыён, на якім будзе ён гарэць праз 16 дзён. Спартсмены ўсіх, удзельнічаючых у Алімпіядзе, дзяржаў актыўна рыхтуюцца да будучых гульняў.

Вельмі актыўна рыхтуюцца да Алімпіяды і нашыя спартсмены, якія паводле думкі спецыялістаў, маюць шмат шанц да таго, каб на гульнях адыграць значную ролю і прыехаць з алімпійскімі медалямі.

Хто будзе пераможцам XVI-тай Алімпіяды? Якія новыя рэкорды атрымаюцца? Хто заваюе найвялікшую колькасць медаляў? Вось пытанні, на якія ўжо за пяць месяцаў будзем маглі адказаць.

А. ОМІЛЬЯНОВІЧ



*На здымку: Від на спартыўныя аб'екты ў Мельбурн, на якіх адбудуцца Алімпійскія гульні.*
*1 — стадыён, на якім адбудзецца ўрачыстае адкрыццё гульняў.*
*2 — басейн для плавання.*
*3 — стадыён, на якім адбудуцца сустрэчы па футболу.*
*4 — хакейны стадыён.*
*5 — веласіпедная дарожка.*
*Фото — ЦАФ*

## Факты і справа

*Працяг са стар. 5*

яву ў Павятовы Аддзел Асветы з просьбай утварыць у Стрыках беларускую школу.

Заява з Бельска павандравала ў Беласток, але адказу на яе стрыкоўскія жыхары не атрымалі дагэтуль. Яны ўсё чакаюць, што школьныя ўлады зразумеюць іх пякучую патрэбу і дапамогуць, а школьныя ўлады гавораць, што справа наладжана, бо яны далі настаўніка валодаючага беларускай мовай, які вучыць у Маліноўскай школе.

Але-ж трэба зразумець урэшце, што далейшыя перспектывы ў вучобе стрыкоўскіх дзяцей, вымагаюць інакшага вырашэння праблемы. У Стрыках неабходна адчыніць беларускую школу. Гэтага хочуць і дамагаюцца жыхары вёскі Стрыкі. А дамагаюцца яны магчымых рэчаў.

Магчымасць такая, нават па меркаванню Аддзела Асветы ў Бельску ёсць.

Чаму-ж тады ўсё яшчэ адкладаецца гэтая справа? Дадумывацца можна розна.

ВЕРА ЛЕУЧУК

## Навіны навукі і тэхнікі

### ЦВЯРДЗЕЙ ЗА СТАЛЬ

Навукова-даследчы інстытут дрэваапрацоўчай прамысловасці Румынскай Народнай Рэспублікі распрацаваў некалькі новых матэрыялаў з дрэва, якія маюць павышаную трываласць. Адзін з гэтых новых матэрыялаў вырабляецца наступным чынам: бярэцца вялікая колькасць тонкіх лістоў спрасаванай фанеры, якія насычаюцца сінтэтычнымі саставамі і змяшчаюцца пад магутны прэс, дзе вытрымліваюцца доўгі час пры высокай тэмпературы. З пласцін атрыманага такім чынам матэрыялу можна вырабляць зубчатыя шасцерні, утулкі і многія іншыя дэталі для станкоў і механізмаў.

Дэталі, выробленыя з новага матэрыялу, мацнейшыя і больш доўгавечныя за стальныя дэталі.

### «ГУМАВАЯ» ЛІНЗА

Так называецца новы спецыяльны аб'ектыў са зменнай адлегласцю, выпушчаны ў ГДР. Як вядома, некаторыя фотаапараты маюць некалькі аб'ектываў з рознымі фокуснымі адлегласцямі. Пераходзячы, напрыклад, са спартыўнай здымкі на здымку партрэтаў і пейзажаў, прыходзіцца адзін аб'ектыў замяняць другім. Гэта ўскладняе працу фотарэпарцёраў і кінааператараў. Новы аб'ектыў маркі «Пентавар» мае чатыры розныя фокусныя адлегласці, г. зн. замяняе чатыры розныя тыпы аб'ектываў — ад шырокавугольнага да тэлеаб'ектыва. А ў дыяпазоне ад 30 мм да 120 мм фокусную адлегласць можна мяняць няспынна. Гэта дае магчымасць кінаработнікам рабіць зусім новыя камбінаваныя здымкі.

### ТРАКТАР - МАЛЮТКА

Нядаўна ў Чэхаславакіі для апрацоўкі гародаў, вінаграднікаў і плантацый хмелю выпусцілі самы маленькі ў свеце гусенічны трактар. Яго магутнасць — каля 10 конскіх сіл, а адлегласць паміж гусеніцамі — 80 сантыметраў. Трактар можа араць, працаваць з культыватарам. Ён вельмі быстраходны і можа працаваць на горных схілах.

### «ЗУБАУРАЧЭБНЫ КАМБАЙН»

Усе сучасныя інструменты для лячэння зубоў, уключаючы рэнтгенаўскі апарат, газавую гарэлку і водаправод з цёплай і халоднай вадой, сабраны ў адным універсальным агрэгаце, які пачаў выпускацца ў Чэхаславакіі. У машыне ёсць таксама прыстасаванне для наркозу ў выпадку складаных апарацый і поршневая помпа для атрымання сціслага паветра.

Рэнтгенаўскі апарат гэтага «зубаўрачэбнага камбайна» — адзін з самых маленькіх у свеце. Аднак з яго дапамогай можна рабіць здымкі не толькі поласці рота, але і іншых органаў.

### КАРЫСНЫ ЯД

Вядомаму нямецкаму хіміку доктару Г. Шрадэру і супрацоўнікам яго лабараторыі (ГДР) удалося вынайсці новы, вельмі эфектыўны сродак барацьбы са шкоднікамі палёў і садоў. Новы сродак назван, вынаходнікамі «Бафатокс». Ён з'яўляецца прэпаратам фосфарнакіслых эфіраў.

Сваімі пранікальнымі ўласцівасцямі і хуткасцю дзеяння «Бафатокс» пераўзыходзіць усе вядомыя віды ядаў, у тым ліку і ДДТ. Ён пранікае не толькі ў сярэдзіну скручанага насякомымі лісця, у наросты і пупышкі, але і ў сярэдзіну кары і раслінныя тканкі. «Бафатокс» знішчае такіх шкоднікаў, як: шчытоўкі, ліставёрткі, майскія жукі, вусені, а таксама ўсіх шкоднікаў буракоў, бавоўны і рысу. Можна выкарыстоўваць яго і ў лясной гаспадарцы.

ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ

# ПАЛЯСОЎШЧЫК

## (Апавяданне старога лесніка)

Трэці год ужо быў лесніком на графскай пушчы, хадзіў цягам па лесе, па оступах, і ведаю, што мядзведзь ёсць-то ёсць, але бог бараніў спаткацца аж да гэтага году; ды і цяпер не ведаю, ці відзеў я мядзведзя, ці не відзеў.

А вось як было: якраз у задушны дзень. Той дзень на ляпорт мы ўсе сабраліся. Прыйшлі рана, меўся лоўчы паляваць ды штосьці з жонкай пабіліся, ці што, от так, яму было не да палявання, і пратрымаў нас да вечара, без нічым нічога, а пад вечар загадаў дроў нарубаць, так да ночы звялося.

Ноч цёмная, мне дахаты трэба ісці праз маю пушчу, праз оступ, дарогі ніякай няма, ідзеш логам, пасля градой, а пасля зноў оступ; праз ручаёк доўгая старая ёлка, можа ўжо гадоў сто ляжыць вываратня, і па ёй пераходзім, бывала.

Якраз, даходзячы да той вываратні, думаю сабе: „Вось, божа барані, цяпер мядзведзь на спатканне..."

Аж шапка паднялася, аж сэрца ёкае, улез на вываратню, пугач недзе стогне ў старым дубе, яшчэ страшней стала...

Калі чую: вываратня аж калышацца, хтосьці ідзе з другога канца на спатканне... Так і ёсць, ён, мядзведзь, сапець, аж страх. А дожджык як з рэшата сыпе. А ведаю я, што мядзведзь палахлівы, але-ж і я не надта, каб ад яго смялейшы. Дай, думаю, спалохаю я яго. Як зараву я па-мядзвежаму — уга! А ён — шабалдых у балота, а крыкнуў, як чалавек: „Ах!".

Лячу барджэй дахаты, ці не задраў ён маёй каровы? Не; цэла, дзякаваць богу, ходзе па гародчыку. Я ў хату шусць! „Жонка, — кажу, — мядзведзь за малым не задраў твайго Юзука.". Калі жонкі і ў хаце няма, дзеці спяць, сучка ляжыць пад сталом, смалякі гараць на прыпечку, і бульба прэе. Што за прычына? Я туды, я сюды — няма жонкі; ці не пасесілася, думаю, са злосці, што мяне няма, а яна такі злая. Калі пачакаўшы трохі і яна ідзець у хату — уся мокрая, а дрыжыць, як лісток.

„Жонка, — кажу, — мядзведзь за малым не задраў твайго Юзука".

„А божа-ж мой, божа, гэта, кажа, пэўне той самы і мяне спаткаўшы, хацеў задраць; як зароў, дык аж я ў балота па шыю ўляцела".

„Гдзе ж ты, кажу, яго спаткала?"

„На чортавай пералазцы (так завецца тая вываратня); ішла цябе спатыкаць, ці з двара дахаты клікаць".

„А я, кажу, ішоў дахаты і на той пералазцы спаткаў мядзведзя і спалохаў яго, дык ён у ручай зваліўся".

„А можа то я была?"

„Вось, кажу, я-бы цябе не пазнаў? То мядзведз быў, пэўне. Вось ты дык можа мяне спаткала, а не мядзведзя".

„Але? Нябось, кажа, я добра прыгледзелася: і морда яго, і хвост кароценькі, і зароў як трэба, аж засмярдзела.

„А бадай цябе пярун спаліў! Давай, баба, бялізну змяніць."

Ну, так і будзе — нячыстая сіла, думаю, нас абое ў мядзведзёў перакінула, а мы самі і не ведалі, бо і чаго-ж мне па-мядзвежаму раўсці і ўсё рабіць, як мядзведзь са страху?...

Дык і хто яго ведае, ці відзеў я мядзведзя, ці не відзеў.



 

